Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

• №45(81) ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ •8-14 лістапада 1996 года. • Цана 1500 руб.

## Падзея тыдня

Прынятае Еўрапейскім парламентам рэзалюцыя аб становішчы ў нашай рэспубліцы прыпыняе працэс ратыфікацыі Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Беларуссю і заходнееўрапейскімі краінамі і не ўводзіцца ў дзеянне Сусветнае пагадненне аб гандлі паміж Еўрапейскім саюзам і нашай рэспублікай. Вызначана як аўтарытарная тая форма дзяржаўнага кіравання, якая будзе існаваць, калі будзе прыняты праект Канстытуцыі, прапанаваны прэзідэнтам. Незадавальняе Еўрапейскае супольніцтва і тое, як у нас ажыццяўляецца прынцып свабоды сродкаў масавай інфармацыі, парушаюцца правы прафсаюзаў, не выконваюцца рашэнні парламента і Канстытуцыйнага суда. Рэакцыя Міністэрства замежных спраў была рэзка негатыўнай на гэтую рэзалюцыю, хаця цалкам зразумелая заклапочанасць Еўрапарламента тым, як будуць разгортвацца палітычныя падзеі далей у нашай краіне.

Эпіцэнтрам супрацьстаяння сталі паседжанні Канстытуцыйнага суда, дзе разглядалася справа "Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 і 3 Пастановы Вярхоўнага Савета ад 6 верасня 1996 года "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнні". Гэта рашэнне дазволіць прызнаць вынікі рэферэндуму неабавязковымі для выканання, а пастанову Цэнтральнай выбарчай камісіі Рспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 1996 года, дзе прадугледжваецца наяўнасць подпісу пры атрыманні бюлетэняў на выбарчым участку— дае падставу прызнаць вынікі рэферэндуму несапраўднымі.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

# Маладзечанцы хавалі айца Авеніра

***Тысячы гараджан прыйшлі да Свята-Пакроўскай царквы, каб развітацца з яе настаяцелем айцом Авенірам.***

Такую колькасць людзей не збірала апошнім часам ні адно палітычнае, спартыўнае мерапрыемства. Авенір Арыстархавіч Білеў больш за паўстагоддзя адслужыў Богу і людзям. 55 гадоў ўзначальваў Свята-Пакроўскую царкву. Змяняўся час, погляды айца Авеніра заставаліся тыя ж: любіце адзін аднаго, клапаціцеся аб сваім здароўі. Мала хто ведае, што грамадзянін Білеў пачынаў настаўнікам фізкультуры і спеваў. Пахавалі айца Авеніра з пашанай. Напярэдадні прыязджаў развітацца з протаіерэем Мітрапаліт Філарэт. Многа было жывых кветак, цёплых слоў.



*На фота: Рыхтуецца месца будучага пахавання. Пратаіерэй айцец Авенір знайшоў свой апошні прытулак ля царквы, у якой праслужыў больш за паўстагоддзя.*

## Патрабуюцца на работу

*Цэнтры занятасці паведамілі аб вакансіях па стану на 5 лістапада.*

**Астравец:** заатэхнік (1), інжынер па ТБ (1), юрыст (1). Тэл. для даведак 21708.

**Ашмяны:** газазваршчык (2), дарожны рабочы (3), галоўны механік (1), даярка (3), тэхнічны работнік (1). Тэл. для даведак 21599.

**Маладзечна:** швяя (20), газазваршчык (4), рабочыя розных будаўнічых спецыяльнасцей з замежным пашпартам, жывёлавод (4), механік (4). Працуе інфармацыйнае табло. Вялікі Гасцінец, 147.





## Навіны

### Грамата ВС Беларусі ў Мікалая Гіро

*ВІЛЕЙКА. Абласное аддзяленне Беларускага дзіцячага фонду абагулела вопыт работы сваёй раённай структуры.*

Умацавалася сувязь вілейчан з германскімі евангелісцкімі абшчынамі. Многія знайшлі сяброў за мяжой. А цікавыя мерапрыемствы— Свята двайнят і блізнят, розныя фестывалі запомніліся на ўсё жыццё. За ўдзел у справах дзяцінства старшыня раённага аддзялення дзіцячага фонду Мікалай Гіро ўзнагароджаны ганаровай граматай Вярхоўнага Савета РБ.

*Аддзел інфармацыі.*

### Будуць падманваць у калоніі

*МАЛАДЗЕЧНА. З тэрыторыі рынка, чыгункі зніклі "латарэйшчыкі". Апошні раз яны падманулі аднаго даверлівага грамадзяніна на 700 тысяч, і былі затрыманы транспартнай міліцыяй. Днямі адбыўся суд над махлярамі: трыма хлопцамі і дзвюма маладзіцамі.*

Працэс усё пераносіўся. То падсудная прызналася, што цяжарная— неабходна было заключэнне ўрача. То падсудны захварэў ларынгітам. І ўсё ж справа разгледжана і вынесены прысуд: мужчыны атрымалі па два з палові гады пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. А іх сяброўкі па два гады ўмоўна.

*Аддзел інфармацыі.*

### Дацягнем да еўрапейскага ўзроўню

*СМАРГОНЬ. Другім месцам адзначана мясцовае масла на абласным конкурсе ў Слоніме. Маслазавод працуе ў рэжыме "да якасці— колькасць."*

У гандаль трапіла новая прадукцыя— ёгурт. І ўжо неабавязкова ісці ў магазін са слоікам для смятаны. Яе выпускаюць вагой 250 грамаў у полістыролавых упакоўках. Зручна.

Нядаўна дырэктар Аляксандр Курлоў наведаў аналагічнае прадпрыемства ў Фінляндыі. Відавочна, што адміністрацыя маслазавода пасягае на еўрапейскі ўзровень.

*Альберт КУМІШЧА.*

### І ў Маладзечне ёсць "зоркі"

*МАЛАДЗЕЧНА. Традыцыйны конкурс юных танцораў, вакалістаў "Зоркі Маладзечна" прайшоў на "ура".*

Пераможцы атрымалі прызы і падарункі. Але найбольшы падарунак юным талентам прадаставіў цэнтр "Ікс-Аўт", які стварылі былыя музыканты Генадзя Сыракваша і Пятра Цаплыгіна. Цэнтр дапамог стварыць музычныя фанаграмы. І, здаецца, гэта адзінае ў рэгіёне месца, дзе робяць прафесійныя аранжыроўкі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Адным абзацам

□Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы пачалі акцыю па збору подпісаў грамадзян у абарону права на атрыманне вышэйшай адукацыі на беларускай мове, стварэнне цалкам беларускамоўнага ўніверсітэта і падручнікаў для ВНУ на роднай мове.

□Па апошніх дадзеных, у Беларусі ўстаноўлена ВІЧ-інфекцыя ў 234 чалавек. 95 выпадкаў прыходзіцца на Светлагорск, 86— Мінск, 6— на Жлобін. Толькі ў адным Светлагорску ў 453 чалавека пярвічны станоўчы вынік.

□Беларускаму Дзяржаўнаму Універсітэту споўнілася 75 гадоў. Галоўная ўрачыстасць з нагоды юбілею адбылася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Перад прысутнымі выступіў прэзідэнт рэспублікі Беларусь.

□Футбол— гульня мільёнаў. І хаця Астраўцу да мільённага горада ох як далёка, гэты від спорту тут любяць. Нядаўна завяршыўся турнір на кубак раёна. У фінале сустрэліся КАФ "Астравец" і каманда міліцыі. Першыя выйгралі з разгромным лікам 9:1 і атрымалі пераходны кубак раёна па футболу, а другія засталіся ні з чым.

□Прэзідэнт РБ падпісаў указ аб адстаўцы Леаніда Мальцава, міністра абароны краіны.

□У Мінску 31 кастрычніка пачаў работу першы міжнародны конкурс на беларускай зямлі "Фартэпіяна -96". У конкурсе ўдзельнічаюць прадстаўнікі 14 краін. Устаноўлены ўзнагароды: І прэмія— 5000 долараў ЗША, ІІ— 3000, ІІІ— 1500 і тры заахвочвальныя прэміі ў памеры 500 долараў кожная.



## Вяртаючыся да надрукаванага

# Дачакаліся

## Прадпрымальнікі Маладзечна ўздыхнулі з палёгкай. Падаткі зніжаны.

*МАЛАДЗЕЧНА. Прадпрымальнікі горада дачакаліся, нарэшце, некаторых змен у парадку падаткаабкладання.*

Сёння каафіцыент павышэння ставак падаткаў для дробнарознічных гандляроў пастаўлены ў залежнасць ад таваараабароту па кожнаму гандлёваму аб'екту (месцу). Уведзена шкала дыферынцыяцыі гэтай стаўкі. Напрыклад, калі дакументальна ўстаноўлены тавараабарот складае ад 500 да 1000 мінімальных заработных плат, то базавая стаўка павялічваецца на 30%. Пры тавараабароце ад 1000 да 2000 мінімальных зарплат яна павышаецца на 50%, пры тавараабароце звыш 2000 мінімальных заработных плат— на 70%.

У пастанове выканкома ёсць спроба зацікавіць вытворцаў— пры рэалізацыі прадукцыі толькі ўласнай вытворчасці за наяўны разлік базавая стаўка зніжаецца на 20%.

Калі характарызаваць дакумент цалкам, то асноўны яго змест накіраваны на зніжэнне базавых ставак падаткаў, што найбольш відавочна ў зніжэнні падаткавай планкі для гандляроў харчовымі таварамі. Гэты крок стаў магчымым пасля перагляду свайго адпаведнага рашэння Мінскім аблвыканкомам. Аналагічныя рашэнні цяпер прынятыя або прымаюцца ў іншых гарадах Мінскай вобласці.

Добра, што гандлярам пайшлі насустрач. Блага, што ўзважанае рашэнне не прымалася адразу.

Дарэчы, у бабуль-гандлярак цыгарэтамі зноў з'явіліся канкурэнты— каля дваццаці прыватных прадпрымальнікаў атрымалі дазвол на гандаль курывам. Іншая справа, на колькі гэта сур'ёзная канкурэнцыя. Бо для бабак не існуе акцызных падаткаў.

*Аддзел інфармацыі.*



